# ТРЫБУНА чытачоў

## ДОБРАЯ ПАСЛУГА

Часта арганізацыі ЗВоВіД з дапамогай прыходзяць розныя ўстановы. Вельмі вялікую дапамогу гуртку ЗБоВіД у Шудзялаве даў начальнік гміны. Ён з гміннага бюджэту перадаў ЗБоВіД-у 5 тысяч зл., адпусціў адзін пакой у гміне і дазволіў карыстацца паперай. Разам з гмінаю гурток цяпер высылае сваю карэспандэнцыю, за якую плаціць гміна.

Трэба сказаць, што не было яшчэ выпадку, каб начальнік гміны ў Шудзялаве Рыгор Чарневіч адмовіў дапамозе гуртку ЗБоВіД. І за гэта ад імя 170 членаў складаю шчырае дзякуй начальніку.

Сакратар гуртка
**Ул. Хомік**

## КУДЫ КІНУЦЬ СМЕЦЦЕ?

Кошыкі для паперы ў кожным горадзе вельмі патрэбны. У Бельску яны стаяць густа, ды толькі ў цэнтры. За чыгуначным пераездам у напрамку Сямяціч нідзе не ўбачыш ніводнага кошыка. А рух тут вельмі вялікі. І смецця застаецца горба. Думаю, што абавязкова трэба тут паставіць кошыкі на смецце.

**Мікалай Няплоха**

## ПАРНАСік
### ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### НА ЯНА

У чацвер кажу я дзеду,
Што да Бельска сёння еду:
Прадаць жыта завязу,
Дзеду штолень прывязу.

Жонка ўчула разгавор,
Выйшла з хаты к нам на двор:
„Бачыш, які безабразнік!
Лепш кіршаш яму, як празнік.

І да Бельска хоча зрана,
А забыў, што сёння Яна.
З жытам няма што спяшаць,
Хопіць часу, каб прадаць.

Одпуст ў Пасынках вялікі,
Ідзі, змяні чаравікі,
Адзягні касцюм той ў паскі —
Едзем ў госці да Параскі.

„То ж нядаўна быў Панас
І прасіў да сябе нас“.
Но то я кажу, як так
Пайду ўліць бянзіну ў бак.

„Хочаш мотарам у госці? —
Жонка кажа, як бы ў злосці. —
Адурнеў ты, ці што, Грышка,
Ты ж не вып'еш ні кілішка!“

Да мяне тут дзед звярнуўся
І вясёла усміхнуўся:
„Бачыш яе і плоць слаба,
Але праўду кажа баба!

Што ж там з празніка такога,
Дзе не вып'еш ні аднога?
Перад людзьмі ўстыд такому,
Што цвярозы прэ дадому.

Я як быў ў тваіх гадах,
Гасцяваў ў многіх хатах.
А ў вёсцы Белаволі —
Сваякоў было даволі.

Пачыналі ад Кандрата,
Пасля йшлі да яго брата,
А адтуль, добра падпіты,
Йдзем, бывала, да Мікіты.

Кругом спевы, весяло —
Аж дрыжала ўсё сяло.
Мы то ж ўзяўшыся пад руку,
Йшлі, спяваючы, па бруку!“

Жонка кажа: „Дзеду, годзе!
Тут мне не пра гэта ходзіць.
Як ён будзе нецвярозы,
Перапыняць на дарозе.

Загадаюць тады хухаць
І дадуць балёна дмухаць.
Як не пойдзе ў добры лад,
Скажуць заплаціць мандат,

Яшчэ могуць зрабіць справу.
Лепш пакіньма дома „Яву“
І канём, як дзед калісь,
Едзем і мы ў госці дзісь.“

**В. Д.**

## ХТО Ў ЧЫМ

Павышэнне сельскагаспадарчай прадукцыі — важная задача сельскай гаспадаркі. Трэба сказаць, што ў аколіцах Бельска многа гаспадароў вядзе спецыялізацыю прадукцыі. Вось некалькі такіх гаспадароў, якія здабылі спецыялізацыю ў 1976 годзе. Мікалай Лукашук з Пашкоўшчыны — гадоўля авечак (прадаў дзяржаве 4.255 кг мяса і 556 кг воўны), Аляксандр Орда з Міклашоў — гадоўля свіней (прадаў 19.760 кг мяса), Мікалай Аверчук з Бельска — гадоўля свіней (прадаў 13.570 кг мяса), Мікалай Лазовік з Сакоў — гадоўля авечак (прадаў 3.600 кг мяса і 510 кг воўны). Такія гаспадары — гэта скарб.

**Мікалай Няплоха**

## СУПРАСЛЬСКІЯ КРОСЫ

У чэрвені ўжо пяты раз быў арганізаваны ваяводскі мотакрос на матацыклах „Камар“. Траса кроса вяла 40 кіламетраў з Супраслі праз Кшэменнае, Суражкова, Лазні, Копную Гару, Сакалду ў Супрасль. Удзел прыняло 30 асоб, між імі два браты Міхал і Андрэй Згеты з Беластока. Перамог Міхал Згет перад Юркам Альховікам з Супраслі і Юркам Гаўрылюком з Супраслі. Пераможца атрымаў кубак начальніка горада і гміны Супрасль.

Таксама ў Супраслі ўпершыню адбыўся веласіпедны крос. Удзельнікі ехалі на турыстычных веласіпедах. Маршрут: Супрасль — Копная Гара — Супрасль. Перамаглі: Мечыслаў Шымчук і Лявон Валумін з Супраслі і Ян Тамашук з Беластока.

(гай)

## МОЛАДЗЬ І СПОРТ

Па ініцыятыве гміннага цэнтра ідэйна-выхаваўчай працы ў Нараўцы адбыліся І гмінныя гульні працуючай моладзі. Тры дні на мясцовым стадыёне гуляла моладзь чыгуначнікаў, цаглянага прадпрыемства, ГС і гміны. Моладзь бегала на 60 і сто метраў, скакала ў даўжыню, ездзіла на веласіпедзе, цягнула канат, іграла ў валейбол. Быў гэта проста спартыўны фестываль.

Найбольш усіх аднак цікавілі спаборніцтвы кіраўніцтваў камандаў. Удзел прынялі: кіраўнік цаглянага прадпрыемства, сакратар ГК ПАРП і старшыня прафсаюзаў. Кубак І сакратара гміннага камітэта ПАРП заваявала жаночая каманда ПКП-Семяноўка, а кубак начальніка гміны — мужчынская каманда цаглянага завода са Старога Ляўкова. Арганізатарам гульняў быў калектыў рэкрэацыйных аб'ектаў на чале з Станіславам Казберуком.

**(А. З.)**

## ГАЙНАЎСКА-КЛЯШЧЭЛЕЎСКАЯ ШАША

Шаша, якая ідзе з Гайнаўкі ў Кляшчэлі, так адрамантавана і дагледжана, што калі гарачы дзень, немагчыма ёю ехаць. Смала прыстае да калёс і брызгае на вопратку. Пакуль даедзеш, замучышся, а вопратку трэба аддаваць у сціпку. Над калёсамі таксама папамучышся, пакуль неяк саскрабеш смалу.

Шафёры праклінаюць дарогу, матацыклісты едуць па абочыне. Хоць гэтая шаша і лічыцца важнай лініяй, аднак Раён публічных дарог абыякава яе выканаў. Залілі шашу рэдкай смалой. Праязджаючыя машыны і сялян ратуе толькі той факт, што мала пакуль гарачых дзён.

**М. Панфілюк**

## НЕ АДНА Ў ГМІНЕ

Вёска Уснар Чорны разлажылася пры невялічкай рэчцы Уснарка, Шудзялаўскай гміны. Налічвае больш 30 гаспадароў. Зямля нядрэнная — III і IV класы. Шчырыя і працавітыя тут гаспадары. Адно што некарыснае для іх, гэта далёкая адлегласць ад гміны і горада. А дарога кепская і непраездная, асабліва ўвосень і вясною.

Галоўная галіна прадукцыі ўснаранскіх гаспадароў гэта гадоўля свіней, менш кароў, бо сенажацяў мала і тыя кепскай якасці — патрэбна тут меліярацыя.

Сеюць збожжа, тытунь і чырвоную канюшыну на насенне. Ураджаі сярэднія. Малодшыя гаспадары хочуць гаспадарыць па-сучаснаму і паглыбляюць свае веды на курсе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У будучыні гаспадаркі Уснара зменяцца. Неабходна ўводзіць тут большую спецыялізацыю.

**Я. Бандарук**

## З КРЫВЯЦІЧ

Брукаваная дарога, якая ідзе праз Крывяцічы ў напрамку Чорнага Лесу ў час дажджу замяняецца ў багно з глыбокімі калдобінамі. Варта, каб актыў сяла пры дапамозе гмінных улад у Орлі арганізаваў пачын і правёў рамонт гэтай сваёй дарогі. Бо так і не прайсці тут і не праехаць. Нішчацца сялянскія машыны, якія вымушаны гэтай дарагай ездзіць, а ў сяле вуліца непадобная на вуліцу.

**Іван Кірызюк**

## КЕПСКІ ПРЫКЛАД

Каля шашы Бельск-Боцькі непадалёк ад вёскі Пілікі ляжыць вялікая колькасць сіласу. А колькі там яго, дык і цяжка сказаць, бо трэба было б сотні тон лічыць. Залажыў яго ў мінулым годзе ПГР Бельск Падляшскі, які звёз сюды і заквасіў траву з 250 гектараў. І невядома, ці гэты сілас удаўся, ці не, але ён ляжыць яшчэ і цяпер, распускаючы смурод над шашой і аколіцай і атручваючы паветра.

Рана аднак ці позна, а трэба яго ліквідаваць. Дзеля гэтага запрапанаваў быў ПГР гаспадарам суседняй вёскі Пілікі, каб сілас гэты забіралі на гной. Гаспадары аднак, не маючы часу і сілы, бо старыя ўсе, не забралі яго і так ён застаўся ляжаць. Тады ПГР сам узяўся яго развозіць. Пачаў трактарамі вазіць сапсаваную кішонку ў суседні пілецкі лес і там валіць у даліны. Крыху яго надабралі, але вялікая колькасць ляжыць далей.

Рада была б, каб сам ПГР, узяўшыся за сілас, развёз яго на сваё поле, дзе 250 гектараў добрай зямлі „падбельскай“ ляжыць аблагом. Дык вось, калі б гэты сілас-гной прыараць, а тады яшчэ дасеяць попелу, зямля дала б вялікую карысць.

Для прыкладу тут хачу яшчэ прыпомніць, што такі самы сілас быў зроблены ў 1974—75 г. на зямлі пад Парцавам. Зрабіў той жа самы ПГР. І той сілас тады таксама згніў і трэба было немалой працы, каб яго развезці і заваліць ім даліны.

Як відаць з гэтых прыкладаў, бельскі ПГР не ўмее вучыцца на сваіх памылках. А такое гаспадаранне ПГР-у дае кепскі прыклад гаспадарам.

**М. С.**




**Дзед Яшка.** Назваліся вы раптам дзедам і пішаце вершы аб сваёй смерці. Не будзем іх друкаваць.

**Станіслаў Ныкетын, Любаўка.** Вершаў па-руску і па-украінску мы не друкуем. Вершы вашай сяброўкі з Украіны звяртаем вам.

**Ірэна В.** Просіце напісаць вам пра вашы артыкулы. Падабаюцца вашы рэфлексійныя замалёўкі, а тыя з Варшавы маюць апрача імпрэсіі таксама пазнаўчыя вартасці. Цяпер у час канікулаў пастарайцеся ў інфармацыях з вёскі быць больш канкрэтнай.

**Колас.** Так моцна крытыкуеце, а не падаеце да ведама рэдакцыі свайго прозвішча і адрасу. Таму інфармацыі „Крама ў Масеве І“ не надрукуем.

**В. О.** Адгалоскаў на тэму камінараў ужо не надрукуем, пакуль гэтую тэму пакінем у спакоі.

**Лянівы чытач „Нівы“.** Справу, якую вы крытыкуеце, цяжка праверыць. Інфармацыю не надрукуем. Але вымушаны сказаць вам, што сапраўды зрабіліся вы лянівым карэспандэнтам і гэта кепска.

**Васілюк Уладзімір с. Яна, Галякова Шыя.** У вашай справе найлепш звярніцеся да начальніка гміны ў Гайнаўцы. Ён вас паінфармуе.

**Дзед Кастусь.** Верш „Сучасная“ надрукуем.

**Іка.** Вітаем зноў у „Ніве“. Жадаем таксама шчаслівага сямейнага жыцця. Вершы будзем друкаваць.

**Зорма.** Далейшыя вершы надрукуем пазней.

**Цыбульскі.** Ваш артыкул ананімны, а прытым крытычны, так нельга, не надрукуем.

**Адам Цэха.** Надрукуем, надрукуем вашы публікацыі! А прычына чакання вам вядома: іх трэба перакладаць. Зробім і гэта.

## НА ЧЫЖОЎСКІМ МЛЫНЕ

У нас у Чыжах ёсць філія млына ГС у Гайнаўцы. Але чыжоўскі млын не працуе, так як людзі хацелі б. Першая справа — нідзе на ім не вісіць інструкцыя, як мелецца тут збожжа. Другая справа — гаспадар, калі прывозіць малоць збожжа, то млынар яго важыць на пачатку, але ўжо пасля пытлявання паўторна не важыць, толькі бярэ шуфальку і адкідае, колькі яму задумаецца. Такую вось мае ён практыку. А павінна ж быць так, што збожжа трэба зважыць перад мяленнем і пасля. Яшчэ адна справа. Людзям, якія прыязджаюць на млын, неяк не прыгожа робіцца, што млынар заўсёды п'яны.

**Шуфалька**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „„ЯК МАГА ХУТЧЭЙ ПАМАГЧЫ“!, „Ніва“ № 21/1108 ад 22 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**URZĄD GMINY W GRÓDKU.**

W związku z zamieszczonym artykułem pt. „Pomóc możliwie jak najszybciej" w 21/1108 numerze tygodnika „Niwa" z dnia 22 maja 1977 r. wyjaśniam, jak następuje.

Sytuacja materialna Ob. Katarzyny Grycuk i jej córki Anny Marszczyńskiej zam. Pieszczaniki jest nam bardzo dobrze znana i pomoc z naszej strony wygląda zupełnie inaczej, jak przedstawiono w artykule. W okresie od 1 lutego 1976 r. do 31 maja 1976 r. w/w otrzymała zasiłek okresowy w wysokości 500 zł miesięcznie. Decyzją z dnia 12 czerwca 1976 r. córka otrzymała zasiłek doraźny w wysokości 700 zł z przeznaczeniem na zakup opału. Od dnia 1 lipca 1976 r. do 31 grudnia 1976 r. otrzymywała zasiłek okresowy w wysokości 1000 zł miesięcznie.

W bieżącym roku Ob. Marszczyńska Anna poza dotychczasowym stałym zasiłkiem pieniężnym do chwili obecnej otrzymała zasiłek doraźny w wysokości 700 zł na opał. W związku z tym, iż pobiera ona stały zasiłek pieniężny z Urzędu Gminy w Gródku i ma na utrzymaniu matkę — może być jej przyznany okresowy zasiłek pieniężny z przeznaczeniem na wspólne utrzymanie zgodnie z Instrukcją Nr 5/68 Ministra Zdrowia i Opieki Społecznej z dnia 29 lutego 1968 r. § 2 pkt 7 (Dz. Urz. MZiOS z 1968 r. Nr 6, poz. 33). Taki zasiłek planujemy udzielić od lipca do końca br.

Dotychczas pomoc ze strony opieki społecznej Urzędu Gminy w Gródku była udzielana z obowiązującymi przepisami. Sytuacja wszystkich innych chorych, starych, samotnych ludzi nie jest nam wcale obca i na pewno nie pozwolimy żadnej z w/w osób, aby nie korzystały one z naszej pomocy tak materialnej, jak i finansowej w miarę posiadanych środków na ten cel.

z up. Naczelnika Gminy
Sekretarz Biura
Wiaczesław Sawicki

**Да заметкі „ШТО ДАЛЕЙ“, „Ніва“ № 19/1106 ад 8 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**NADLEŚNICTWO BIELSK PODLASKI.**

W nawiązaniu do notatki prasowej z 19/1106 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 8 maja 1977 r. Nadleśnictwo Bielsk uprzejmie informuje, że pożarzysko znajdujące się na terenie wsi Krywiatycze, gmina Orla, zostało odnowione wiosną bieżącego roku.

Z up. Nadleśniczy
Starszy instruktor
Jan Sejnota

**Да публікацыі „СПОСАБ НА МЫШЭЙ“, „Ніва № 19/1106 ад 8 мая 1977 года.**

**Адказвае:**

**„SPOŁEM" WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA SPOŻYWCÓW W BIAŁYMSTOKU ODDZIAŁ W BIELSKU PODLASKIM.**

W odpowiedzi na Waszą notatkę z dnia 8.05. 1977 r. nr 19/1106 — Dyrekcja „Społem" WSS Oddział w Bielsku Podlaskim wyjaśnia:

Kiosk nr 13 w Studziwodach został zamknięty na mocy decyzji Wojewódzkiej Stacji Sanitarno-Epidemiologicznej w Białymstoku ze względu na nieodpowiedni stan sanitarny kiosku (nie tylko myszy — również szczury.) Systematycznie przeprowadzane deratyzacje nie przyniosły pożądanych efektów.

W chwili obecnej oczekujemy na realizację zamówionych kiosków typu „Uno". Zgodnie z ostatnimi ustaleniami ma to nastąpić w miesiącu sierpniu lub wrześniu. Z chwilą realizacji naszego zamówienia — rozpoczniemy natychmiastową budowę kiosku w dzielnicy Studziwody. Będzie to kiosk o dużej powierzchni — przystosowany do nowoczesnego handlu.

Z-ca Dyrektora
B. Waszkiewicz

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# ФІЛЬКАВА ГРАМАТА

— Дазвольце, Эраст Маркавіч?

У дзверы ўсунулася маладжавая жанчына ў стракатым, па апошняй модзе, пыльніку.

— Хто?.. Адкуль?.. Па якой справе?

— Не помніце? Я загадвала бібліятэкай...

— Хіба ўсіх запомніш! Вас шмат, а я адзін, — з дакорам зірнуў Эраст Маркавіч Філька на жанчыну. — Кажаце, звольнілі. А за што?

— Ні за што. Звольнілі — і ўсё.

— Ну, гэта вы кіньце. Так не бывае. Каб ні з таго, ні з сяго...

— Ні з таго, ні з сяго, — стаяла на сваім жанчына. — Ні за што!

— Ні за што, — паківаў галавой Эраст Маркавіч. — Мабыць, нічога не рабілі, то і знялі.

— Як гэта нічога не рабіла?! Выходзіць, так сабе, за прыгожыя вочы, пахвальную грамату далі?

— Пахвальную грамату? — здзівіўся Філька. — А хто ж гэта так мог расшчодрыцца?

— Вы! Вы мне гэтую самую грамату давалі! — жанчына паказала пахвальны ліст.

Філька разгарнуў шаматкі ліст.

— Няўжо мой подпіс? — Эраст Маркавіч зняў і працёр хусцінкай шкельцы акуляраў. — Так, здаецца, мой. Уласнаручны. Так, так, цяпер я вас прыпамінаю. Гэта ж вы, здаецца, цудоўны-ы-я справаздачы пісалі?

— Ды ўжо ж, — зардзелася жанчына. — Бывала, усё хвалілі...

— Бо заслужылі! — Эраст Маркавіч выцер на пажоўклай лысіне пот, яшчэ раз заглянуў у грамату. — Так што, Ірына Сцяпанаўна... Ды сядайце, сядайце, калі ласка, у нагах, кажуць, праўды няма.

— Нічога, я пастаю.

— Помню, помню! Можна сказаць, што не справаздачы — оды!

— То каб назад мяне... у бібліятэку?

— У бібліятэку? З такімі задаткамі?! Не! — ускапіўся Эраст Маркавіч. — Слухайце! А чаму б вам не пайсці да нас?

— То ж я і прыйшла.

— Да нас інспектарам...

— Інспектарам? — адступіла Ірына Сцяпанаўна.

— Вось-вось... Ёсць вакансія .

— Ой, ці ж спраўлюся?

— Гэтакія справаздачы! — хваліў Эраст Маркавіч. — Значыць, згода? То зараз і афармлю... Адачка, кнігу загадаў!

*Іван Аношкін*







## ДЗЕД ЦІМОХ

— Гэта ўжо чалавек! — сказаў дзед Цімох, убачыўшы ў цырку малпу, якая пыхкала цыгаркай.

* ★ *

— Сіноптык! — папракала бабка Аўдоцця дзеда Цімоха. — Табе б прадказваць поры года, а не надвор'е.

* ★ *

— Папрасіла Цімоха падмесці, а ён падлогу пафарбаваў, — расказвала бабка Аўдоцця.

* ★ *

— Памыліцца можа кожны, — разважаў дзед Цімох, — але найбольш памылак робіць тыя, хто ўмее пісаць.

* ★ *

— Вечных рухавікоў няма, а зямля круціцца, — сказаў вартаўнік Цімох.

— Гэта таму, што ёсць вечны рух, — заўважыў фельчар Хвядос.

**Марцін Коўзкі**

## СПРАВА Ў ХУТКАСЦІ

Хто скажа, чаму бывае раса? — пытаецца настаўнік.

— Я ведаю! — паднімае руку Міколка. — Зямля круціцца так хутка, што ажно пацее.



## РЫБАЦКІЯ КАРЦІНКІ



— *Дарма старайся — зусім не бярэцца.*

## НЕ ТРЭБА

Жонка будзіць Кастуся:

— Уставай, стары, пеўні ўжо крычаць!

— Не трэба нам у гэту справу ўмешвацца, — прабурчаў Кастусь і перавярнуўся на другі бок.

**Змагаўся за праўду па прынцыпу: знайшоў — маўчу, згубіў — крычу.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Вядомы ў акрузе гультай паскардзіўся Афандзі:

— У нас няма ніводнага мужнага чалавека. Колькі ўжо прашу пазычыць пяцьсот рублёў, ніхто не асмельваецца даць іх мне. Баязліўцы!

— Ведаеш што, — сказаў Насрэддзін, — збіраючыся ісці, можаш і мяне лічыць баязліўцам.

* ★ *

Падарожнік пад'язджае позна ноччу да маленькай гасцініцы.

— Прабачце, — звяртаецца ён да чалавека, які стаіць ля пад'езда, — як вы думаеце, тут можна добра выспацца?

— Думаю, што можна. Я ўжо гадзіны паўтары грукаю ў дзверы, і ніхто яшчэ не прачнуўся.

* ★ *

— Эдна зусім не можа хадзіць у заапарк. Як толькі яна спыняецца перад клеткай з жывёлінай, пачынае нервацца да слёз.

— Чаму?

— Яна не можа перажыць, што столькі прыгожых футравых вырабаў сядзяць у клетках без карысці!



*Бывай на 3 тыдні!*

## ПАСПАЧУВАЛІ

Нямала ўжо гадоў
Быў Заяц падначаленым
Ў Ваўкоў.
Як толькі злосць іх разбірае,
Адразу Зайца выклікаюць.
І лаюць, і гырчаць.
Адкрые Заяц рот —
— Маўчаць! —
Ты ідыёт!
Не бачыш — мы галодныя!
Цяпер ужо нязгодныя!
Ты што глядзіш так крыва? —
Зайчык стаіць маўкліва.
(Бо, крытыка, брат, сіла!)
Яшчэ б зямля яго насіла.
Ды да таго ж Ваўкі
Аднойчы захмялелі,
Што Зайца на закуску з'елі.
Прачнуліся уранку —
Прайшоў салодкі сон.
— Ах! Які быў закусон!
Сядзелі моўчкі да пары.
Ды раптам: „Гыр!“ —
Адзін на аднаго — „Гыр-гырры!“
А зайчыка няма...
— Ай-ай! Дарма
Яго мы з'елі.
Вядома, трохі падурэлі!
А добры Заяц быў:
Маўчун. І слухаўся няблага.
І памяць добрую набыў
Наш незабыўны бедалага...
Такіх, бадай, няма на ўсёй планеце.
Мы ж не хацелі... бачыць бог.
— Давай хоць некралог
Мы змесцім у „Лясной газеце“.
І падпісалі ад душы:
„З павагаю, яго таварышы“.
Мараль кароткая, звычайная:
Не еш у злосці падначаленага.

**Іван Сварнік**

**Песні па заяўках**

Па просьбе Надзеі Нікіцюк са Ступнік, Галіны Лук'янюк і Ірэны Касцючук з Кожына, Яўгеніі Анішчук, Яна Апалінскага, Юркі Якімюка і Лявона Андрэюка з Зубава, Зінаіды Іванюк і Уладзіміра Парфенюка з Трашчотак змяшчаем песню

## Szanujmy wspomnienia

**słowa: Andrzej Jastrzębiec-Kozłowski**
**muzyka: Andrzej Zieliński**
**śpiewają „Skaldowie“**

Co było, to było
co może być — jest
a będzie to, co będzie,
lecz zawsze to miło,
że nie brak nam miejsc,
do których wracamy pamięcią.
Gonimy za szczęściem,
sięgamy do gwiazd,
na gwałt świat chcemy zmieniać,
lecz to najważniejsze,
co żyje gdzieś w nas —
Panowie, szanujmy wspomnienia.
Szanujmy wspomnienia,
smakujmy ich treść,
nauczmy się je cenić,
szanujmy wspomnienia,
bo warto coś mieć,
gdy zbliży się nasz fin de siecle.
Jak było, tak było —
dziś prawo do róż
ma nawet żart i plotka,
czy flirt był — czy miłość
nie zmieni się już
ta pani w tamtego podlotka.
Z tygodnia na tydzień
oddala się dzień
świecący w smudze cienia,
lecz żeby go widzieć,
wystarczy to chcieć —
Panowie, szanujmy wspomnienia.
Szanujmy wspomnienia, itd.



— *А пачалося ўсё з таго, што я ўступіў ёй месца ў аўтобусе.*




## ХАМУТЫ

Старэнькі дзядок заходзіць у краму і пытае:

— Ці не тут прадаюцца хамуты?

У краме былі толькі два франты.

— Не, тут прадаюцца дурні, — адказалі яны.

— Бач, — круцячы галавой, сказаў дзядок, — відаць гандаль добра ідзе, бо толькі два і засталіся.




## ГОРКАЯ АСАЛОДА

Вельмі многія абывацелі ў капіталістычным свеце зайздросцяць багаццю і славе кіназорак і спакушаюцца магчымасцю за кароткі час стаць такімі ж забяспечанымі і шчаслівымі. Але мала хто з іх задумваецца аб тым, якую горкую асалоду мае капрызлівы лёс кінаакцёра і на што толькі ён не вымушаны ісці, каб падтрымаць былую славу. Напрыклад, знакамітая Сафі Ларэн, калі яе не запрашаюць на здымкі кінакампаніі, носіцца па вуліцах на матаролеры, каб усюды звярнуць на сябе агульную ўвагу, напомніць, што ёсць такая артыстка. А тым часам яе фатаграфуюць на кінаплёнку: вось яна паехала ў магазін за пакупкамі. Вось імчыцца ў басейн і г.д.

Другая нядаўняя кіназорка — секс-бомба Брыджыт Бардо, якая мела трох мужоў і шэраг неафіцыйных прыяцеляў, вырашыла звярнуць на сябе ўвагу тым, што аддала перавагу перад уласнымі дзецьмі звярам. За 30 кіламетраў ад Парыжа яна купіла вілу і стварыла там заапарк. І яе здымалі на кінастужкі ў акружэнні 23 катоў, 16 сабак, 10 авечак, 6 коз і плоймы курэй, качак і галубоў. А калі яе перасталі здымаць, яна раптам страціла прыхільнасць да звычайных звяроў. Яна заявіла свету, што завяшчае свой капітал у фонд цэлай краіны зверанят, а сама захапілася стварэннем фасонаў вопраткі ў стылі сялянкі. І пакуль што людзі не забыліся, што існуе на свеце такая знакамітасць.

## ДАРАГАЯ КВАТЭРА

„Мяняю аднапакаёвую кватэру на сонечны бок“.

*(з аб'явы)*




**У кожнага свой метад: адзін падбірае ключы да дзвярэй, другі шукае дзверы, да якіх бы падышоў яго ключ.**